*...Камуністычныя суботнікі з'яўляюцца незвычайна каштоўнымі, як фактычны пачатак камунізму...*

У. І. ЛЕНІН



М. ШАРЭНКА. Мантажніца.


ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і Мастацтва

ВЫДАЕЦЦА З 1932 г.

№ 16 (2647) • Пятніца, 20 красавіка 1973 года. • Цана 8 кап.




І. ГЛЕБАУ. На калгасным таку.

ПРАЦА... СТВАРАЛЬНАЯ ПРАЦА САВЕЦКАГА ЧАЛАВЕКА... ГЭТАЙ ВЕЛІЧНАЙ ТЭМЕ ПРЫСВЯЧАЮЦЬ СВАЕ ЛЕПШЫЯ РАБОТЫ БЕЛАРУСКІЯ ЖЫВАПІСЦЫ, ГРАФІКІ, СКУЛЬПТАРЫ.



І. ДАВІДОВІЧ. Вялікі пачын.



І. СТАСЕВІЧ. Шахцёры Салігорска.

Канстанцыя БУЙЛО

## Ленін

*Ён прыйшоў, як мары ўвасабленне,*
*Дыхала надзеямі планета.*
*Марылі аб шчасці, аб збавенні*
*Людзі паднявольныя сусвету.*
*Ён прыйшоў, ён быў зямлі патрэбным,*
*Як паветра чыстае і воля.*
*Люд работны ў кашулях зрэбных*
*Гнуў спіну ад цяжкае нядолі.*
*Працаваў, збіраў паволі сілы,*
*І чакаў у думках запаветных...*
*Час прыйшоў — узняў шырока крылы,*
*Сцяг свабоды залунаў над светам.*
*Засвяціла ленінскае слова,*
*Промні ярка глянулі за краты.*
*Будавалі мы жыццё нанова,*
*На зямлі свабоднай і багатай.*
*Як жа звонка льюцца нашы песні,*
*Як жа ясна свеціць сонца людзям!*
*Ленін нарадзіўся ў ранак весні,*
*Ленін — жыць заўсёды з намі будзе.*

## УДЗЕЛЬНІЧАЙЦЕ Ў КОНКУРСЕ!

**ВЦСПС і Саюз пісьменнікаў СССР праводзяць усесаюзны адкрыты конкурс на лепшы твор мастацкай прозы пра сучасны савецкі рабочы клас. На конкурс прымаюцца раманы, аповесці, мастацка - дакументальныя творы, апублікаваныя ў перыядычным друку або выдадзеныя кнігамі ў 1972 і 1973 гадах, а таксама рукапісы.**

**Творы, напісаныя на мовах народаў СССР, прадстаўляюцца на конкурс у перакладзе на рускую мову.**

**Устаноўлены прэміі: першая — 5000 рублёў, дзве другія па 2500 рублёў кожная, тры трэція па 1500 рублёў кожная.**

**Рукапісы, кнігі і часопісныя публікацыі (у двух экземплярах) прымаюцца да 1 студзеня 1974 года па адрасу: Масква, К-9, Пушкінская вул., дом 16, Дом Саюзаў, пакой 32, з паметкай «На літаратурны конкурс». Вынікі конкурсу будуць аб'яўлены 1 мая 1974 года.**

**Творы, адзначаныя прэміямі, выпускаюцца выдавецтвамі «Савецкі пісьменнік» і Прафвыдат у першую чаргу і масавымі тыражамі.**

## ВІНШУЕМ З УЗНАГАРОДАЙ!

*За шматгадовую актыўную работу ва ўстановах культуры рэспублікі і ў сувязі з 50-годдзем з дня нараджэння Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР узнагародзіў дырэктара Дзяржаўнага ордэна Леніна акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларускай ССР Шаўчука Мікалая Панцеляймонавіча Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета Беларускай ССР.*

## У РЭДАКЦЫЮ «ЛІТАРАТУРЫ І МАСТАЦТВА»

*Прашу дазволу выказаць са старонак газеты «Літаратура і мастацтва» маю шчырую падзяку ўсім, хто па-таварыску павіншаваў мяне з нагоды майго 50-годдзя.*

**Б. УЛАДАМІРСКІ,**
**заслужаны артыст БССР.**

**ДЗЕЯЧЫ ЛІТАРАТУРЫ І МАСТАЦТВА, РАБОТНІКІ КУЛЬТУРЫ! ВЫСОКА НЯСІЦЕ СЦЯГ ПАРТЫЙНАСЦІ І НАРОДНАСЦІ САВЕЦКАГА МАСТАЦТВА, УДАСКАНАЛЬВАЙЦЕ МАСТАЦКАЕ МАЙСТЭРСТВА, АДДАВАЙЦЕ СВАЕ ЗДОЛЬНАСЦІ ВЫХАВАННЮ БУДАЎНІКОЎ КАМУНІЗМУ!**

*З Заклікаў ЦК КПСС да 1 Мая 1973 года.*

# ЧЫРВОНАЯ СУБОТА



На здымку—засядае штаб па правядзенню суботніка Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута. Злева направа—прарэктар па вучэбнай і навуковай рабоце С. Лакішык, сакратар камітэта камсамола М. Сафронаў, інжынер па рамонту будынка І. Баркун, намеснік сакратара партыйнага бюро І. Усачоў, дэкан мастацкага факультэта В. Валошын, дэкан тэатральнага факультэта А. Першыц.

Заўтрашняя субота — ўсенароднае свята камуністычнай працы.

Як і ў мінулыя гады, на Ленінскі суботнік выйдзе і творчая інтэлігенцыя нашай рэспублікі. Літаратары і артысты, музыканты і мастакі выступяць у сельскіх клубах, у цэхах, навучальных установах.

— Якімі канкрэтнымі справамі адзначыць 21 красавіка ваш творчы калектыў? — з такім пытаннем звярнуліся карэспандэнты «ЛіМа» да кіраўнікоў некаторых з іх. Вось што яны адказалі:

— *Усе нашы артысты, — паведаміў дырэктар Гомельскай абласной філармоніі В. Радзькін, — у гэты дзень будуць выступаць на сцэнах заводскіх і калгасных клубаў, працаваць на прадпрыемствах і ў школах. Канцэртная брыгада «Рускі сувенір» выступіць у адным з калгасаў Мазырскага раёна. Праграму «Ад усяго сэрца» паглядзяць калгаснікі Жлобіншчыны. Перад працаўнікамі Хойніцкага раёна з кінааглядам «Любоў мая, кіно» выступіць Сімон Сімараў. А брыгада, якая абслугоўвае юных гледачоў, пакажа праграму «Буду рабіць добра і не буду дрэнна» ў школах Калінкавіцкага раёна.*

*Вакальна-інструментальныя ансамблі «Сябры» і «Музыкі» ў гэты дзень дадуць канцэрты ў Архангельску і Уладзіміры.*

— Шмат работы заўтра ў беларускіх мастакоў, — гаворыць сакратар партыйнай арганізацыі Саюза мастакоў Беларусі Ул. Стальмашонак. — Мы наменілі правесці генеральную веснавую ўборку ў нашым доме. Прывядзём у парадак памяшканні мастацкага фонду, мастацкага салона.

Вялікая работа прадстаіць тым, хто будзе працаваць на нашай новабудоўлі. Заканчваюцца аддзелачныя работы ў выставачным павільёне. У хуткім часе будзем спраўляць наваселле. Прывесці ў парадак памяшканні павільёна і навакольную тэрыторыю — адзін з асноўных пунктаў нашага заўтрашняга плана.

Група мастакоў будзе працаваць на прадпрыемствах Мінска і на вуліцах горада. Яны зробяць замалёўкі з натуры для рэспубліканскіх газет, для тэлебачання, у якіх адлюструюць, як працоўныя сталіцы адзначаць Ленінскі камуністычны суботнік.

— *Наш суботнік пачаўся некалькі раней, чым ва ўсіх, — расказвае галоўны рэжысёр тэатра оперы і балета А. Дадзішкіліяні. — Справа ў тым, што 16 красавіка, у свой выхадны, мы паказалі гледачам оперу «Фаўст», сабраныя сродкі перададзім у фонд 9-й пяцігодкі.*

*Заўтра тры брыгады артыстаў нашага тэатра выступяць перад рабочымі Мінскага аўтамабільнага завода, з якімі ў нас даўнія і моцныя творчыя сувязі.*

У вестыбюлі Магілёўскага абласнога тэатра вісіць лозунг: «Усе — на камуністычны суботнік!».

— У нашым калектыве 105 чалавек, — адзначыў дырэктар В. Шмудзянкоў. — Для нас суботнік пачаўся ўжо. Сёння мы прыводзім у парадак тэатральныя памяшканні, наводзім чысціню. А заўтра пакажам прэм'еру па п'есе М. Шатрова «Конь Пржэвальскага». Яе паставіў наш зямляк, лаўрэат прэміі ЛКСМБ У. Бараноўскі.

Усе сродкі, сабраныя ў гэты дзень ад канцэртаў і спектакляў, пойдуць у фонд дзевятай пяцігодкі.

— *З раніцы будучыя акцёры, скульптары, канструктары і культасветработнікі збяруцца на кароткі ўрачысты мітынг, — сказаў прарэктар Мінскага тэатральна-мастацкага інстытута А. Драфа. — Усе мы з'явімся з чырвонымі бантамі на грудзях. Нехта прыйдзе з баянам, нехта з гітарай. На працу пойдзем з песняй. Не дарма ж ужо тыдзень развучваюцца новыя песні аб радасці працы, аб радзіме.*

*Заўтра большасць студэнтаў будзе працаваць на будоўлі новага памяшкання інстытута. З яго заканчэннем мы атрымаем больш дзвюх тысяч квадратных метраў дадатковай плошчы для аўдыторый, лабараторый, майстэрань. 500 чалавек будуць працаваць на будоўлі і добраўпарадкоўваць дваровую тэрыторыю. Плануем высадзіць там 200 кустоў.*

ГОСЦІ МІНСКА

# ДРУЖБА ТВОРЧАЯ, АСАБІСТАЯ...

У Мінску адбыліся творчыя вечары буйнейшага савецкага кампазітара, народнага артыста СССР, лаўрэата Дзяржаўных прэмій СССР, прафесара Ціхана Мікалаевіча Хрэннікава.

Опера і сімфонія, масавая песня і тэатральная музыка, цудоўныя ўзоры садружнасці з кінематаграфіяй — усё падуладна таленту вядомага ўсяму свету мастака.

Кожная сустрэча з творчасцю Ц. Хрэннікава — гэта спатканне не толькі з кампазітарам, але і з яркім самабытным піяністам. Нездарма імя Ціхана Мікалаевіча залатымі літарамі запісана на мармуровай дошцы гонару Маскоўскай кансерваторыі, якую ён выдатна закончыў па спецыяльнасцях кампазіцыі і сольнага фартэпіяна.

Праграма аўтарскіх выступленняў Ц. Хрэннікава ў Мінску складалася з выканання яго Першай сімфоніі — твора, напісанага яшчэ ў юнацкія гады, які набыў вядомасць ва ўсім свеце і захаваў сваю мастацкую каштоўнасць да нашых дзён, а таксама трох выдатных Канцэртаў: для фартэпіяна, скрыпкі, віяланчэлі. Салістамі ў іх выступалі аўтар і лаўрэаты міжнародных конкурсаў Уладзімір Співакоў (скрыпка) і Міхаіл Хоміцар (віяланчэль). Усю праграму на добрым мастацкім узроўні правёў Дзяржаўны сімфанічны аркестр Беларускай ССР пад кіраўніцтвам галоўнага дырыжора Юрыя Яфімава.

У гутарцы з нашым карэспандэнтам першы сакратар праўлення Саюза кампазітараў СССР Ціхан Мікалаевіч Хрэннікаў падзяліўся сваімі ўражаннямі пра сучасную беларускую музыку.

— З мінскімі калегамі мяне звязвае не толькі сяброўства наогул, — яго замацоўвае творчасць, і гэта вельмі каштоўна. Прыемна адзначыць, што Беларусь мае моцны атрад кампазітараў, якія ўнеслі значны ўклад у скарбніцу савецкай шматнацыянальнай музычнай культуры. Вельмі добра, што ў творчасці беларускіх кампазітараў знайшла адлюстраванне шматбаковасць музычных жанраў, што лепшыя з твораў, асабліва песні, набылі вялікую вядомасць у краіне.

Я спадзяюся, што чарговы V Усесаюзны з'езд кампазітараў краіны, які адбудзецца ў пачатку наступнага года ў Маскве, зноў пакажа, што беларуская музыка займае адметнае месца ў савецкай музычнай творчасці.

Я спецыяльна не называю асобныя прозвішчы беларускіх кампазітараў ці назвы іх твораў, бо ўсе аўтары па праву заслугоўваюць цёплых слоў.

Што датычыць беларускіх выканаўцаў, то я лічу неабходным падкрэсліць, што мне зноў было вельмі прыемна сустрэцца з калектывам Дзяржаўнага сімфанічнага аркестра БССР — цікавым мастацкім ансамблем, — тым больш, што ён за апошнія гады значна пасталеў у сваім выканаўчым майстэрстве. Кіраўнік аркестра— цудоўны музыкант, сапраўды таленавіты, натхнёны мастак.

Мне вядомы многія беларускія выканаўцы, кожны з іх заслугоўвае слова ўдзячнасці за адданасць справе прапаганды савецкай музыкі. Незабыўныя ў мяне ўспаміны пра заўчасна памёршага народнага артыста БССР Ісідара Міхайлавіча Балоціна. Гэта быў адзін з самых таленавітых спевакоў. Ён валодаў цудоўным голасам, слухаць яго было заўсёды асалодай. Ісідару Балоціну я вельмі абавязаны, ён быў першым выканаўцам многіх маіх твораў яшчэ ў час вайны і неаднаразова пасля яе.

Днямі ў Маскве адбылося пашыранае пасяджэнне сакратарыята Саюза кампазітараў СССР. Яно прысвечана было ажыццяўленню ўказанняў партыі ў галіне мастацтва, якія выказаў Л. І. Брэжнеў у дакладзе аб 50-годдзі ўтварэння СССР.

На гэтым пасяджэнні сакратарыята вельмі ўдала выступіў паважаны намі кіраўнік беларускай кампазітарскай арганізацыі Рыгор Раманавіч Шырма. У сваёй усхваляванай і шчырай прамове Рыгор Раманавіч правільна падкрэсліў, што перад усімі кампазітарамі краіны стаіць высакародная задача — жыць адным жыццём са сваім народам, што толькі такая блізкасць у спалучэнні з талентам з'яўляецца жыватворнай крыніцай для творчага натхнення.



Ц. Хрэннікаў на рэпетыцыі.

Браніслаў СПРЫНЧАН






# МЕТАЛ

*Знайшоўшы ў лесе выцвілы патрон,*
*Падумаў я міжволі аб метале:*
*У ім дабро і зло ў патэнцыяле.*
*Ці не таму мяне трывожыць ён?*
*Калі шугае полымем ліццё,*
*Метал не знае, чым ён заўтра стане,*
*Прымае спакваля ў гарачым стане*
*Аблічны тых, хто даў яму жыццё.*
*Цябе ён можа ўзняць крылом тугім.*
*І можа, як няўмольная іголка,*
*Упіцца ў сэрца вастрыём асколка,*
*Гранатай грукнуць на шляху тваім.*
*Грыміць арганам і пяе трубой.*
*То рэйкамі пранізвае пайстанкі,*
*То зрокам абалваненай балванкі*
*Глядзіць увысь з упартасцю сляпой.*
*Ды ты сагрэй сваім агнём яго,*
*І ў цэху, дзе ён стане паслухмяным,*
*Шліфуй, пакуль у ім — перакаваным*
*Не ўспыхнуць іскры поспеху твайго.*
*Як зззяе плуг!*
*На ім святло зары*
*І ані кроплі зла ў патэнцыяле.*
*Пакінь на ім свае ініцыялы,*
*Аратаму на шчасце падары!*

●

*Як мне аддзячыць, адкажы ты,*
*Як адплаціць табе, скажы,*
*За старажытны водар жыта,*
*За гэты хлебны дух дзяжы.*

*Нябачны, ён дыхнуў здалёку,*
*Павёў у поле, паланіў.*
*І толькі там адкрыўся воку*
*У пераліве спелых ніў.*

*Так неабходны, так патрэбны*
*Нам гэты подых у жыцці.*
*Мацней, як дух, як водар хлебны,*
*На цэлым свеце не знайсці.*

*О дух зямны, з якім паўстала*
*Святло зярнят у збажыне,*
*Вярнуся ў цэх, ды пах метала*
*Цябе не пераб'е ва мне!*

*Перад жнівом, перад сяўбою*
*Не адступаючы нідзе,*
*Глядзіш — і зноў дыхне табою*
*Метал, што на лямеш ідзе.*

*Адвеўшы даўнія нягоды,*
*Ва мне мой горад і сяло*
*Змыкаюцца для добрай згоды,*
*Як з левым правае крыло.*

# У МІНСКУ

*Яшчэ не сціхлі ліўня ўсхліпы,*
*А ўжо, глядзі, адлюстраваны*
*У вымытым асфальце ліпы,*
*Струменіцца іх пах духмяны.*
*У ім знікае чад бензіна —*
*Зямныя токі не аслаблі.*
*Акрэслены выразна ў сіні*
*Палацаў звонкія ансамблі.*

*На тварах муляроў іскрыцца*
*Зара, адсоўваючы хмары.*
*У іх руках расце сталіца*
*З металу, каменя і мары.*
*Упісваецца ў непаўторны*
*Малюнак зелені лагоднай*
*Аўтамабільны і маторны —*
*Тут колеры ў суполцы згоднай.*

*Яны са сцягам дружаць гордым,—*
*Чырвоны над зялёным зверху.*
*Пад гэтым сцягам*
*крокам цвёрдым*
*Я ў цэх іду, як на паверку.*
*Хоць строгія ў дэталі грані,*
*Ды ў трапяткой палосцы зрэзу*
*І характво блакітнай рані,*
*І ўпартасць добрага жалеза.*

*Тут вечны гул жыцця не моўкне.*
*І пах каштана і арэха,*
*Сюды даходзячы праз вокны,*
*Зліваецца з дыханнем цэха.*

*У перакованым жалезе —*
*Галінкі пахкай хруст ласкавы.*
*У цвет яе чмялі залезлі,*
*Нібы праніклі ў сутнасць з'явы,*
*Дзе, быццам у народнай песні,*
*Туга і радасць у хаўрусе,*
*Зялёны дым садоў Палесся,*
*І дым заводаў Беларусі.*

Пераклаў П. МАКАЛЬ.

# УСЁ ПРА СТАЛІЦУ

Ці ведаеце вы, што такое зона «Е» ў дзяржаўным банку? Нават сам кіраўнік не можа зайсці сюды без вялікай неабходнасці. Зона «Е» ўдзень і ўначы ахоўваецца. Ды і наогул у банку — гэтым «кашальку» горада, бывалі, бадай, нямногія. Адкрыйце дваццатую старонку кнігі А. Кудраўцава «Мінск і мінчане», і вы даведаецеся шмат цікавага пра «сумную» работу фінансістаў.

Аўтар запрашае нас «прайсці» па падземных мінскіх камунікацыях, пасядзець за кубкам піва з майстрам-піваварам, пазнаёміцца з лоцманам «пятага акіяна» і наведаць «палац шчаслівых».

На вокладцы кнігі пяць здымкаў. Твар дзяўчыны, якая смяецца, і аэрапорт — паветраныя «вароты горада», сталявары, шумная вуліца і ціхая лабараторыя вучонага... Гэта фотаработы аўтара кнігі, маладога журналіста Анатоля Кудраўцава.

«Мінск і мінчане» — зборнік рэпартажаў, якія па-новаму прымушаюць чалавека ўбачыць і ацаніць, здавалася б, ужо даўно знаёмыя з'явы і факты з жыцця беларускай сталіцы. Можна дзесяткі разоў праходзіць па мінскіх вуліцах і не заўважыць таго, што фіксуе ўважлівы аб'ектыў рэпарцёра і памяць журналіста. Можна сустракацца з чалавекам многія гады і не ведаць яго запаветных думак. Можна і проста не ведаць, што ў доме, які выглядае зусім звычайна, адбываліся падзеі значныя і нават гераічныя...

У кнізе А. Кудраўцава шмат здымкаў, якія лёгка запамінаюцца. Яны выкананы на высокім прафесійным узроўні і з добрым густам. Адны з іх публікуюцца ўпершыню, другія паспелі ўжо абысці «краіны і кантыненты». Некаторыя і цяпер падарожнічаюць па Еўропе. Аўтар — удзельнік многіх фотавыставак у СССР, ЗША, Францыі, Італіі, Польшчы, ФРГ, арганізаваных агенцтвам друку «Навіны». З яго цікавымі лаканічнымі рэпартажамі знаёмы чытачы «Комсомольской правды» і «Известий», «Советского спорта», часопіса «Смена».

Мова кнігі «Мінск і мінчане» часам скупаватая. Але затое шмат умела знойдзеных дэталяў.

«Многія дзесяцігоддзі над Мінскам панавалі званіцы сабору на сённяшняй плошчы Свабоды. Потым — вышыння будынак Дома ўрада. Потым — тэлевежы на беразе Свіслачы. І цяпер вось — новая мачта ў Калодзішчах.

Яна «перарасла» вышыню шпіль Маскоўскага універсітэта, ленінградскую тэлевежу, Эйфелеву вежу ў Парыжы і, нарэшце, н'ю-йоркскую радыёмачту на вышыні самага высокага небаскроба ў свеце Эмпайр Стэйт Білдзінг.

Перш чым узняць мачту на такую вышыню, будаўнікі вымушаны былі накіравацца глыбока пад зямлю...»

Так пачынаецца кароткі расказ аб рабоце мантажнікаў-верхалазаў. І як ўсё ў гэтай кнізе, ён ілюструецца фатаграфіямі.

Усе знаёмствы з героямі ў кнізе адбываюцца натуральна і проста. А ў памяці застаюцца надоўга. У гэтым, бадай, галоўная задача рэпарцёра, які піша летапіс нашых будняў. Вось як пачынаецца рэпартаж «Сэрца просіць дапамогі» пра работу хірургаў:

«Памятаеце сцэну, калі Гамлет, цвёрда перакананы ў злачынстве Клаўдзія, прыходзіць да маці-каралевы? Яна гаворыць яму:

— О мілы Гамлет, ты рассёк маё сэрца.

А ён у адказ:
— Адкіньце ж вы благую
палавіну
І з лепшаю жывіце ў чысціні...

А гэтыя словы належаць урачу, выдатнаму даследчыку мінулага стагоддзя, славутаму Клоду Бернару:

— Сэрца перастае працаваць апошнім, нібыта чакаючы канца бітвы паміж жыццём і смерцю.

Як бачыце, ва ўсе стагоддзі сэрца было ў пашане як у паэтаў, так і ва ўрачоў...»

Журналіст добра адчувае дынаміку, рытм падзей. Вось як ён малюе трывожнасць моманту ў рэпартажы «Неадкладная» спяшаецца на дапамогу»:

«Чатыры пары абцасаў узрываюць калідорную цішыню. Ляпаюць дзверцы «рафіка», гудзе матор. На паваротах час пачынае кідаць з боку ўбок. Дробныя каменьчыкі барабаняць па днішчы машыны. Зрэдку шафёр уключае сірэну, і я бачу, як твары прахожых адразу становяцца сур'ёзнымі, у вачах застывае трывога.

Мінула ўсяго чатыры хвіліны, як па рацыі паведамілі: «Паражэнне токам...»

У сваім ўсхваляваным расказе пра будні савецкіх медыкаў аўтар нібы нанава адкрывае вядомыя факты, разглядаючы іх у незвычайным ракурсе. У гэтым прывабнасць яго рэпартажаў.

Радуе вялікі дыяпазон інтарэсаў журналіста. А. Кудраўцаў нямала паездзіў па краіне. Працаваў з парашутыстамі-спартсменамі на Паміры, сам узыходзіў на пік Леніна, бываў у геолагаў і рыбакоў, разам з лётчыкамі ўдзельнічаў у вымушаных пасадках, ішоў з плытагонамі па Енісеі.

«Мінск і мінчане» яго першая кніга. І кніга, безумоўна, цікавая і патрэбная. Яе з цікавасцю прачытаюць людзі розных узростаў і прафесій, мінчане і госці нашага горада. Яна будзе карысная для фотааматараў і пачынаючых журналістаў.

Я. ЛОГІНАЎ.

А. Кудраўцаў. «Мінск і мінчане». На рускай мове. Выдавецтва «Беларусь», 1973.

*ВІНШУЕМ З ЮБІЛЕЕМ!*

## Рыгору РЭЛЕСУ—60



*23 красавіка пісьменніку Рыгору Рэлесу спаўняецца 60 год. З гэтага выпадку праўленне Саюза пісьменнікаў Беларусі накіравала юбіляру прывітанне, у якім гаворыцца:*

**«Дарагі Рыгор Львовіч!**

**Сардэчна вітаем Вас і шлем свае віншаванні з нагоды Вашага шасцідзесяцігоддзя. Як літаратар, Вы прыйшлі да свайго юбілею з немалымі здабыткамі. На пачатку творчасці, — гэта было перад самай вайной, — выдалі два зборнікі вершаў на роднай яўрэйскай мове. Пасля вайны выйшла кніга вершаў «Бяроза пад акном» у перакладзе на беларускую мову Р. Барадуліна. Шмат друкавалася Вашых вершаў у часопісе «Саветыш Геймланд» («Савецкая Радзіма»), які выходзіць у Маскве на яўрэйскай мове.**

**У апошнія гады Вы паспяхова выступаеце ў жанры прозы. Пішаце пераважна на педагагічныя тэмы, аб вучобе і выхаванні маладога пакалення. Прыемна адзначыць, што ў аснову Вашых навел і апавяданняў лягліназіранні, здабытыя Вамі за доўгі час настаўніцкай працы ў адной з рабочых вячэрніх школ Мінска.**

**Жадаем Вам, дарагі Рыгор Львовіч, новых творчых поспехаў, сонечнага настрою, добрага здароўя, шчасця, найлепшага здзяйснення ўсіх Вашых творчых і жыццёвых планаў».**

*Рэдакцыя штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва» далучаецца да гэтага віншавання і жадае пісьменніку новых творчых поспехаў.*

# 207.600 КВАДРАТНЫХ КІЛАМЕТРАЎ

народнай гаспадаркі СССР, і нават у Канадзе, Японіі, Фінляндыі, Югаславіі, Чэхаславакіі. Восем дыпломаў, больш як дзвесце медаляў — такі вынік карпатлівай працы нястомных маладых вынаходцаў.

Аўтары фільма паказваюць арганічную сувязь народнай творчасці мінуўшчыны з творчасцю нашых сучаснікаў, гавораць аб яе вытоках, пераемнасці традыцый, падкрэсліваюць, што без гэтага не можа існаваць і развівацца ніякае мастацтва.

Галоўны расказчык у фільме — сам дырэктар вучылішча А. Я. Ларын. Яго кінаманалог напоўнены цікавымі звесткамі, прыкладамі, параўнаннямі. І не дзіва. «Праз рукі» Аркадзя Яфімавіча прайшло каля трох тысяч выхаванцаў, якія працуюць у розных галінах айчыннай прамысловасці. А пройдзе час, і ў адзін шэраг з імі стануць малодшыя калегі.

Глядзіш на экран і верыш, што сённяшнія навучэнцы будуць кваліфікаванымі спецыялістамі, з высокім інтэлектам, добрым эстэтычным густам. Аўтарам стужкі, не гледзячы на яе асобныя пралікі, на вопыце адной навучальнай установы ўдалося паказаць, як на сучасным этапе вырашаецца праблема падрыхтоўкі рабочых кадраў. Гэта новае слова ў беларускім дакументальным кіно.

...Калі ў зале гасне святло, і на экране ўзнікае надпіс «Стварыце зноў веласіпед», то не адразу разумееш, што гэтыя словы значаць? Нібы назва рэкламнага фільма ці ролі-ка.

Аказваецца, дакументалісты «інтрыгуюць» гледача. Бо за назвай — цікавая па зместу і форме кінастужка. На першы погляд, нават тады, калі ўрэшце пачалася дзея, у кадрах быццам нічога не адбываецца. Мы бачым простага чалавека з дынастыі стругальшчыкаў, гаворыць ён пра сябе, сваіх таварышаў і вучняў. Развіваючы кінарасказ па ўзыходзячай лініі, аўтары падаюць звесткі адну цікавей другой. Пры гэтым яны амаль не карыстаюцца дыктарскім тэкстам. Усё «трымаецца» менавіта на ўласных словах Патаповіча. Словы не толькі інфармацыйнага характару, а і глыбокага роздуму аб надзённых справах, якія аднолькава хвалююць кіраўнікоў і іх падначаленых. Асноўная думка зводзіцца да таго, што рабочы, дзе б ён ні працаваў, павінен быць высокакваліфікаваным.

Стругальшчык Патаповіч не толькі вучыцца сам, але і вучыць іншых «навічкоў».

Так простымі, даходлівымі сродкамі майстры дакументальнага экрана «лепяць» кінапартрэт героя нашага часу — героя пяцігодкі. У ім, як у фокусе аб'ектыва, яны адлюстроўваюць усенародны рух за навукова-тэхнічны прагрэс, за паспяховае выкананне дзевятай пяцігодкі.

Важнай падзеяй трэба лічыць стварэнне кінаальманаха «Галоўная вуліца», які аб'ядноўвае чатыры праслкнутыя адной думкай навелы. Дзве першыя «Партызанскі праспект» і «Я — мільённы» — ужо закончаны. Умоўныя назвы астатніх — «Палітычны прадстаўнік» і «Нараджаецца песня» — знаходзяцца ў вытворчасці. Нядаўна кінаэкспедыцыя, якую ўзначальвае рэжысёр Ю. Лысятаў, выехала на поўнач нашай краіны, дзе праходзяць выпрабаванні беларускіх аўтамабіляў.

Героі гэтага альманаха — рабочыя, інжынеры, канструктары, прадстаўнікі навукова-тэхнічнай інтэлігенцыі.

Інтэлігенцыі прысвечаны і іншыя кінастужкі. Так, рэпартаж «Прызначаны дырэктарам» (аўтары сцэнарыя В. Марозаў, В. Шаталаў, рэжысёр-аператар В. Шаталаў) расказвае пра інжынера А. Малахава, які пасля рэарганізацыі калійнага камбіната стаў дырэктарам першага рудаўпраўлення; той жа А. Канеўскі ў фільме «Нараджаецца «Віхар» паказаў стваральнікаў новага сельскагаспадарчага агрэгата — камбайна.

А ў цэнтры нарыса «Рэчанька» — малады інжынер А. Мураўскі. Пад яго кіраўніцтвам ажыццяўляецца праект збудавання Вілейска-Мінскай воднай сістэмы, злучэння рэк Віліі і Свіслачы.

## НА ЭКРАНЕ — СЕЛЬСКІЯ ГАРЫЗОНТЫ

Паказ дасягненняў сельскай гаспадаркі рэспублікі, працаўнікоў вёскі займае належнае месца ў арсенале кінапубліцыстаў. Гэтай тэме падпарадкаваны ўсе тры жанры не ігравога кіно — дакументальнае, навукова-папулярнае і вучэбнае.

Адразу адзначым, што прыхільнікам першага жанру ў колькасных адносінах выхваляцца асабліва няма чым. Лепшае, што зроблена ў гэтай пяцігодцы, — гэта «Факел», «Вольныя» майстры» і «У дзень зарплаты». Астатняе прыпадае на долю навукова-папулярнага і вучэбнага кіно.

Як відаць з самой назвы стужкі, дзея адбываецца ў адзін дзень. К. А. Пінчук атрымлівае ў банку грошы, вяртаецца ў сваю гаспадарку і тут раздае «палучку». Такім чынам, за аснову ўзяты лакальны жыццёвы факт, а думка на ім прасочваецца вялікая: толькі ў працы чалавек дасягае мэты, паляпшае і ўпрыгожвае сваё жыццё і жыццё ўсяго народа. Аўтары падкрэсліваюць, што значная доля гэтага поспеху прыходзіцца на дзевятую пяцігодку.

Аналізуючы прадукцыю кінапубліцыстыкі, робіш выснову, што вядучая, калі не сказаць, галоўная роля ў асвятленні сельскагаспадарчай тэматыкі належыць навукова-папулярным і вучэбным фільмам. У ліку лепшых варта назваць «Мікраклімат на фермах» (аўтар сцэнарыя Ю. Бяслебнаў, рэжысёр Л. Матусевіч, аператар М. Южык), дзе разглядаюцца важнейшыя ўмовы павышэння прадукцыйнасці жывёлагадоўлі.

Стварэнню сельскагаспадарчых фільмаў аддаюць свае здольнасці і энергію многія кінематаграфісты. Скажам, С. Браўдэ амаль цалкам прысвяціў сябе гэтай справе. Праблемы асушэння балот, асваення тарфянікаў, меліярацыя — яго «канёк», яго генеральная тэма. У «Нараджэнні новага Палесся» (сцэнарыст Х. Петэрсон, аператары Г. Шынгер, Ф. Осіпаў) ён прапагандуе прагрэсіўныя метады асушэння беларускага Палесся. А ў сваёй новай рабоце «Асноўнае звяно» дае своеасаблівае даследаванне праблемы, выказвае навуковыя рэкамендацыі па асваенню прыроднага комплексу. Рэжысёр сцвярджае, што велізарным водным балансам гэтага краю можна кіраваць, што рэгуляванне вільготных глебаў — гэта новая задача, а ўсе папярэднія метады састарэлі. Адначасова ставіцца пытанне аб неабходнасці захавання Палесся як запаведніка.

Яму, С. Браўдэ, належыць яшчэ адна даволі цікавая і патрэбная стужка — «Шматгадовы лубін» (сцэнарысты К. Доўбан, С. Браўдэ, аператар Г. Шынгер), дзе разглядаецца аграцэхніка вырошчвання гэтай культуры, яе шырокае выкарыстанне ў сельскай гаспадарцы.

У творчым аб'яднанні «Летапіс» штогод выпускаецца некалькі вучэбных фільмаў. Гэта — як бы фільмы-рэкамендацыі, фільмы-інструкцыі, фільмы-парады па тых ці іншых пытаннях сельскагаспадарчай вытворчасці. Звычайна самі назвы гавораць аб іх тэматычнай накіраванасці. Напрыклад, «Пярвічная апрацоўка льну», «Машыны для пасеву і ўборкі льну» і іншыя.

Але, як лепшае дасягненне тых, хто працуе ў вучэбным кіно, хацелася б адзначыць карціну «Падсобныя прадпрыемствы ў калгасах і саўгасах» (сцэнарысты У. Рабцаў, У. Шэлег, рэжысёр У. Шэлег, аператары Б. Алёшкін, Ю. Іванцоў), — расказ аб перадавых гаспадарках рэспублікі, якія шырока выкарыстоўваюць унутраныя рэзервы для развіцця эканомікі. Гэта не проста інструкцыя, а твор, дзе ставіцца і на канкрэтных прыкладах раскрываецца дзяржаўная праблема.

На жаль, пра некаторыя фільмы гэтага нельга сказаць. Бо яны павярхоўныя, ілюстрацыйныя, неглыбокія. Аднак настойлівыя пошукі, паўсядзённая карпатлівая праца кінематаграфістаў не спыняецца ні на адзін дзень. Усё падпарадкавана адной задачы: глыбей паказваць на экране спалучэнне навукі з практыкай, адлюстроўваць плённы ўплыў на развіццё сельскагаспадарчай вытворчасці, на паспяховае выкананне задач, якія пастаўлены перад працаўнікамі сяла ў дзевятай пяцігодцы.

Кінастужка «Факел» (сцэнарыст М. Вінаграў, рэжысёр В. Сукманаў, аператар А. Аўдзееў) расказвае пра вёску на Магілёўшчыне, якая называлася раней Ліхнічы, а зараз перайменавана ў Ракушава, у гонар В. І. Ракушава, загінуўшага разам з сынамі ад кулацкай кулі ў часы калектывізацыі. Аўтары расказваюць аб вялікіх, радасных зменах, што адбыліся на гэтай зямлі дзякуючы калгаснаму ладу, аб заможным жыцці аднавяскоўцаў і нашчадкаў патрыёта.

Другі кінанарыс «У дзень зарплаты» можна назваць своеасаблівым працягам «Факела». Паміж адлюстраванымі ў іх падзеямі — дыстанцыя ў некалькі дзесяцігоддзяў. Але параўноўваючы іх, пераконваешся, які поспех, маштаб, зрух заваяваны за гэты перыяд нястомнай працай калгаснага сялянства.

Стваральнікі фільма не робяць ніякіх экскурсаў у мінулае, не насычаюць яго мноствам лічбаў, фактаў, прыкладаў, што так уласціва некаторым дакументалістам. У гэтай стужкі адзіны галоўны герой — касір калгаса «Новы быт» Мінскага раёна — Канстанцін Андрэевіч Пінчук. Яго вуснамі аўтары і расказваюць аб росце матэрыяльнага дабрабыту людзей. Ад нізкааплачваемых працадзён да грашовай аплаты, да 270—400 і больш рублёў у месяц, — вось такі пройдзены шлях. Ці трэба гаварыць, што гэты паказчык — самае яркае адлюстраванне працоўных перамог ва ўсіх галінах гаспадаркі.

...Кожны дзень вядуцца здымкі сюжэтаў для кіначасопісаў, а таксама хранікальна-дакументальных, навукова-папулярных і вучэбных фільмаў. Усюды можна сустрэць нястомных аператараў «Летапісу». А здымачная пляцоўка ў іх вялікая — 207,6 тысячы квадратных кіламетраў — плошча нашай рэспублікі.





Кадры з фільмаў «Падсобныя прадпрыемствы ў калгасах і саўгасах» і «У дзень зарплаты».

## ДЫПЛОМЫ — СТВАРАЛЬНІКАМ ФІЛЬМАЎ

На студыі «Беларусьфільм» завяршыўся агляд-конкурс кінастужак, створаных тут у мінулым годзе. На працягу шасці дзён перад работнікамі студыі і іх гасцямі — рабочымі мінскіх прадпрыемстваў, журналістамі, студэнтамі, школьнікамі — прайшло адзінаццаць мастацкіх і тэлевізійных фільмаў, каля 80 хранікальна - дакументальных і навукова-папулярных стужак трох творчых аб'яднанняў.

На заключнай творчай канферэнцыі агляду-конкурсу лепшай у мастацкім кінематографе была прызнана рэжысура А. Карпава і яго славацкага калегі М. Цяпака ў сумесным савецка-чэхаславацкім фільме «Заўтра будзе позна».

Сярод дасягненняў аператараў журы адзначыла здымкі Ю. Марухіна ў фільме «Хроніка ночы». Лепшым мантажорам яно назвала Л. Кузміч, якая працавала над карцінай «Вуліца без канца».

У калектыве «Тэлефільма» поспеху дабіліся стваральнікі шматсерыйнай стужкі «Руіны страляюць». Шэсць з іх названы лепшымі па прафесіі.

У ліку кінематаграфістаў, удастоеных дыпломаў першага агляду-конкурсу, больш за 20 супрацоўнікаў творчага аб'яднання «Летапіс».

Пераможцаў агляду-конкурсу павіншаваў старшыня Камітэта Савета Міністраў БССР па кінематаграфіі У. В. Мацвееў.

БЕЛТА.

Народны тэатр трактарнага шэфствуе над цэхавай самадзейнасцю. Вельмі часта ў абедзенны перапынак нашы артысты выступаюць з канцэртамі. У нас ёсць свае чытальнікі, спевакі, танцоры, мы паказваем урыўкі з спектакляў і невялічкія інтэрмедыі.

Трактарны завод шэфствуе над калгасамі і саўгасамі Лагойскага раёна. Не засталося ўжо ніводнай гаспадаркі ў гэтым раёне, дзе тэатр не паказаў бы свайго спектакля. Нас ведаюць працаўнікі палёў і заўсёды гасцінна сустракаюць. У калгасе «Крайскі» арганізавалі драматычны гурток, які паставіў два аднаактовыя спектаклі. На жаль, нам не ўдалося дамагчыся таго, каб сельскі гурток працаваў сістэматычна.

За ўзорнае абслугоўванне працаўнікоў вёскі народнаму тэатру трактарнага завода летась быў прысуджаны пераходны Чырвоны сцяг Міністэрства культуры СССР і ВЦСПС.

Няма падстаў скардзіцца на няўвагу трактаразаводцаў да свайго тэатра. На нашых прэм'ерах, на пасяджэннях мастацкага савета прысутнічаюць сакратар парткома завода К. Каратай, яго намеснік Т. Кішчанка, старшыня заўкома Р. Чухнакоў. А нядаўна на прэзідыуме заўкома абмяркоўвалася работа народнага тэатра і яго мастацкага савета. І ўсё ж ёсць пытанні, якія трэба яшчэ вырашаць. Мінула ўжо амаль чатыры месяцы гэтага года, а каштарыс тэатра на 1973 г. не зацверджаны. Гэтым і тлумачыцца, што мы затрымалі здачу спектакля «Не так жыві, як хочацца» А. Астроўскага.

Моцна перашкаджае нам у рабоце і тое, што артысты тэатра працуюць у розныя змены і ў адпачынак яны ідуць не адначасова, а па графіках сваіх вытворчых цэхаў і аддзелаў. Неаднаразова гэтыя пытанні ставіліся перад адміністрацыяй завода, парткомам і заўкомам. Усе пагаджаюцца з тым, што сапраўды трэба пайсці насустрач калектыву, але справу зрушыць з месца і на сённяшні дзень не ўдаецца, хаця асноўны склад тэатра налічвае да 30 чалавек. Для такога гіганта, як наш завод, гэта—кропля ў моры.

У гэтым артыкуле я спыніўся толькі на некаторых пытаннях жыцця і вопыту народнага тэатра. Спадзяюся, што мяне дапоўняць мае калегі-рэжысёры, артысты, усе шматлікія прыхільнікі народнага мастацтва.

**Аляксей БЯЛЯЕЎ.**

●●●●●●●●●●●●●●●●●●





Студэнтка 2-га курса Галіна Такмінінава.



Міністр культуры БССР Ю. М. Міхневіч уручае Ганаровую грамату старэйшаму выкладчыку Л. С. Мухарынскай.

# СОРАК ПЕРШАЯ МУЗЫЧНАЯ ВЯСНА...

**Звыш сарака гадоў прайшло з таго дня, калі ў невялічкім будынку на ціхай вуліцы імя Кірава адкрылася першая ў гісторыі беларускага народа вышэйшая музычная навучальная ўстанова. З удзячнасцю ўспамінае грамадскасць тых дзеячоў, якія пачалі рыхтаваць у нашай рэспубліцы кадры музыкантаў вышэйшай кваліфікацыі па розных спецыяльнасцях.**

**Прафесарам М. Аладаву, А. Бяссмертнаму, В. Залатарову, Я. Зільбербергу, Г. Папавіцкаму, П. Ціхановічу і іншым мы абавязаны тым, што яны яшчэ ў даваенны час выхавалі кампазітараў, спевакоў, піяністаў, выканаўцаў на народных інструментах, хормайстраў, якімі мы па праву ганарымся сёння.**

**Нядаўна Беларуская дзяржаўная кансерваторыя імя А. Луначарскага адзначыла знамянальную дату — саракагоддзе.**

Гэтыя здымкі зроблены ў час святкавання саракагоддзя Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі імя А. В. Луначарскага.



Спявае былы выхаванец Валерый Кучынскі.



Выступае сімфанічны аркестр.

Фота Ул. КРУКА.

# СЯМ'Я АРХІТЭКТАРАЎ

ісці гуляць ці не ісці, што купіць на вячэру... Таму і нерваваўся цяпер, што жонка паводзіла сябе так, быццам ёй абыякава яго праца.

Поля разумела гэта. Але што яму параіць? Усё жыццё яна старалася адно—памагчы яму ў творчасці ўсім, чым толькі можна, і заўсёды баялася зноў-такі аднаго — перашкодзіць яму. Безумоўна, яна больш практычная пры рашэнні любой бытавой, сямейнай задачы. Але ніколі яна не ўлазіла ў архітэктуру—накшталт Дашы Карначовай і другіх архітэктаравых жонак, якія з выглядамі глыбокіх знаўцаў разважалі пра дойлідства з такой жа лёгкасцю, як пра панчохі і бюстгальтары. Смешна слухаць бывае...

Поля выцерла рукі і села на табурэтку каля дзвярэй, па-сялянску, — на самы край, сашчапіла на жываце, на запырсканым фартусе рукі.

Віктар наблізіўся да яе, скрывіўся, як ад болю, сказаў амаль шэптам, паказваючы на дзверы:

— Пацягнула мяне за язык... Але што я мог адказаць, калі ён, парася, папракаў, чаму я ўсё жыццё сяджу на жыллі? Балбатун. Але, не ў час усё гэта. «Я збудую раён, пра які табе захочацца напісаць манаграфію». А заўтра ён даведаецца...

Полю гэта не засмуціла, наадварот, узрадавала: бацьку так важна, што падумаюць пра яго дзеці! Хіба не радасна гэта для маці?

Але яна зноў змаўчала.

Віктар падышоў да акна, паглядзеў на вуліцу, на дом насупраць, дарэчы — яго дом, які заўсёды мазоліў яму вочы, бо гэта быў адзін з тых дамоў, якія лепш не ўспамінаць. Мала суцяшала, што знешні выгляд дома сапсавалі будаўнікі, іх віна большая. Максіму ніхто палац не сапсаваў: ён біўся за кожны пілястр, за кожную плітку...

Выходзіць, Поля ўхваляе яго намер. Так проста? Так лёгка? Шугачоў адчуў расчараванне. Не разумее, значыцца, чым гэта можа скончыцца. Сказаў ад акна, — знарок гучна — няхай чуюць дзеці:

— Мяне палохае не тое, што з маёй адмовы могуць зрабіць, ведаеш, якія вывады... Я сам зрабіў бы. Кіраўнік майстэрні адмаўляецца ад задання. Які ж ты кіраўнік? Злазь з месца. Не падводзь інстытут. Калі хочаш, могуць запісаць нават у картачку — трыццаць гадоў чыстая... Калі мне пасля гэтага дадуць галоўнага архітэктара праекта? Шукаць пад старасць шчасця ў другой рэспубліцы? — ён знарок сказаў пра тое, супраць чаго, не сумняваўся, Поля запярэчыць самым рашучым чынам. Дзіўна, што і тут яна змаўчала. Гэта адарвала Віктара ад акна, прымусіла зірнуць жонцы ў вочы. Незразумела яна сябе паводзіць сёння. Вочы ў яе сталі сумныя і твар, здалося, пабялеў. Зрабілася шкада яе і ён суцешыў: — Нікуды я не паеду. Я беларус. Да гэтага горада прывязаны пупавінай. І мне нічога не страшна! Я магу працаваць радавым праекціроўшчыкам. Нам будзе нялёгка. Але я ведаю: ты не ўпікнеш мяне. Не?

Поля маўчала. Гэта ўжо зусім было дзіўна і незразумела, яшчэ больш устрывожыла.

Віктар глядзеў на жонку ва ўпор, чакаючы, што яна, як заўжды, скажа, параіць нешта такое, ад чаго ўся яго праблема зробіцца простай і яснай. Як з Верай. Яму здалося трагедыяй, а Поля вырашыла так мудра і проста.

Нарэшце яна спытала:

— Ты з Максімам раіўся?

Ён чамусьці ўзлаваўся.

— Не хачу я з ім і раіцца! Ён запэўніў яшчэ год назад, што яны з Ігнатовічам даб'юцца дазволу на эксперыментальны раён. Я спадзяваўся на іх. На каго больш можна спадзявацца? А цяпер у іх разлад. Ідыёт. З-за дурной бабы ён загубіў такую справу!

— Не лай яго, Віця. Яму нялёгка.

— А мне лёгка?

Яна сказала на дзіва проста і ўпэўнена:

— Віця, ты спраектуеш Зарэчны раён.

— Так ты мяне зразумела і падтрымала? Дзякую!

— Цябе замучыць сумленне, калі ты адмовішся.

Ён закрычаў на ўсю кватэру:

— Сумленне! З-за гэтага праклятага сумлення я загубіў свой талент!

— Не крычы, Віця. Дзеці. Ты і на гэтых нарматывах зробіш не горш. Я ж ведаю цябе лепш, чым хто.

Ён раптам абмяк, знясілена апусціўся на табурэтку. Ён капітуляваў перад мяккай, але непахіснай сілай жаночай логікі.

Цяпер трэба натхняцца на іншае — на працу. Знясілены душэўнай барацьбой, ён у глыбіні душы радаваўся такому Полінаму рашэнню. Ён не зманіў дзецям. Сказаў ім праўду! Зарэчны раён будзе. Яго, Шугачоўскі!

## У ДНІ ПАСЯЎНОЙ

**Калектывы самадзейнасці дома культуры Магілёўскага завода штучнага валакна імя Куйбышава намецілі вялікую праграму культурнага абслугоўвання працаўнікоў сяла і шэфскай дапамогі сельскім самадзейным калектывам.**

**У Быхаўскім раёне ўжо выступаў заводскі народны ансамбль танца. На сцэне клуба саўгаса «Вараніно» быў паказан спектакль «Шасцёра любімых» па п'есе А. Арбузава. Гэты ж спектакль паглядзелі ў сваім клубе працаўнікі калгаса «Чырвоная зорка» Магілёўскага раёна.**

**Некалькі канцэртаў для калгаснікаў калгасаў імя М. Горкага і «Шлях Леніна» Горацкага раёна даў агіттэатр «Усмешка».**

**Гараджане выступілі з канцэртамі ў калгасах «Серп і молат» Чаускага і «Шлях Ільіча» Круглянскага раёнаў.**

**Ул. БЕЛЕНЬКІ.**

## Г. І. ЖЫХАРАЎ



Беларускае музычнае мастацтва панесла вялікую страту. Раптоўна памёр Георгій Іванавіч Жыхараў, загадчык кафедры народных інструментаў, дацэнт Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі імя А. В. Луначарскага.

Г. І. Жыхараў нарадзіўся ў г. Слаўгарадзе Магілёўскай вобласці ў 1915 годзе. З дзіцячых год палюбіў народную музыку і пранёс гэтую любоў праз усё сваё жыццё. У 1939 годзе Георгій Іванавіч стаў дыпламантам Усесаюзнага агляду выканаўцаў на народных інструментах. Ён быў стваральнікам і кіраўніком цэлага раду ансамбляў і аркестраў народных інструментаў, з'яўляўся пастаянным членам мастацкіх саветаў Рэспубліканскага дома народнай творчасці і Рэспубліканскага дома мастацкай самадзейнасці.

Шмат сіл і энергіі аддаваў Георгій Іванавіч справе навучання і выхавання маладых спецыялістаў. На працягу 24 гадоў работы ў Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі імя А. В. Луначарскага ім была падрыхтавана вялікая колькасць высокакваліфікаваных музыкантаў.

Усе, хто ведаў Георгія Іванавіча, бачылі ў ім глыбокага прапагандыста народна - інструментальнага мастацтва, актыўнага грамадскага работніка, які аддаваў усе свае сілы росквіту беларускай народнай музыкі.

Светлая памяць аб Георгію Іванавічу Жыхараве назаўсёды захавецца ў нашых сэрцах.

**Група таварышаў.**

**Міністэрства культуры БССР глыбока смуткуе з прычыны раптоўнай смерці Георгія Іванавіча Жыхарава, дацэнта, загадчыка кафедры народных інструментаў Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі імя А. В. Луначарскага і выказвае шчырае спачуванне сям'і і блізкім нябожчыка.**

*Дырэкцыя Музея савецка-польскай баявой садружнасці ў сяле Леніна Горацкага раёна Магілёўскай вобласці даводзіць да ведама ўстаноў, арганізацый і ўсіх грамадзян, што ў сувязі з правядзеннем капітальнага рамонту Музей савецка-польскай баявой садружнасці ў сяле Леніна Горацкага раёна Магілёўскай вобласці закрыты для наведвальнікаў з 1 красавіка па 10 кастрычніка 1973 года.*

